


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

23 мая 2003 года

№ 21 (422)
Выходзіць па пятніцах

Плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Конкурс кветак

**ВІЛЕЙКА**. На выхадных тут прайшла V выстаўка-конкурс пакаёвых раслін.
Яе наведалі 1100 віляйчанаў. Сярод 30 удзельнікаў перамагла **Таісія Бяўзо**, якая ў падарунак атрымала свяцільнік. Без прызоў не застаўся ніводны ўдзельнік выстаўкі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Лепшыя цырульнікі

**ВАЛОЖЫН**. Каманда Вілейскага ПТВ-200 заняла першае месца ў абласным конкурсе цырульнікаў, які прайшоў у райцэнтры.
У склад пераможцаў уваходзілі 3 навучэнцы, 3 майстры вытворчага навучання і 3 чалавекі, на якіх паказвалі прычоскі.

**Ірына РАБУШКА.**

### Пакусаў сабака

**МАЛАДЗЕЧНА**. На мінулым тыдні бадзяжны сабака пакусаў 10 дзяцей.
Ён забег у будынак СШ №11, дзе пацярпелі тры пачаткоўцы, што дражнілі яго. Пасля на тэрыторыі суседняй установы ён пакусаў 7 вучняў нулявога класа школы мастацтваў.
Сабаку злавілі і адправілі на ветэрынарную станцыю, дзе назіраюць за яго станам. Вынікі будуць вядомыя 26 мая. Чатыром дзецям, на якіх засталіся драпіны ад укусаў, даюць прышчэпкі ад шаленства. За астатнімі таксама назіраюць дактары.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Уславілі Смаргонь

**СМАРГОНЬ**. Ваенны аркестр Смаргонскай вайсковай часці 2044 заняў другое месца на рэспубліканскім аглядзе-конкурсе памежных часцей.
Ён прайшоў 15-17 мая ў Брэсце. А старшына гэтай часці **Юрый Каржанеўскі** стаў лепшым у конкурсе салістаў-інструменталістаў і павёз дадому крыштальную вазу.

**Галіна АНТОНАВА.**

# Патоп у вёсцы Дамашы



Вёска Дамашы, Маладзечанскі раён, 20 мая. Дажджы нанеслі вялікі ўрон прысядзібным гаспадаркам. Фота Ірыны РАБУШКІ.

## 20 мая за апошнія 11 дзён вёску Дамашы затапіла трэці раз

**МАЛАДЗЕЧНА. Першы раз патоп быў у ноч з 13 на 14 мая. Ад моцных лівняў пацярпела 18 хат. 16 і 20 мая вада зноў заліла падворкі.**

Пажарныя, якія адкачвалі ваду з вясковых двароў, гавораць, што адну машыну ў гаражы пад домам затапіла па самы дах. Работнікі гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях адкачвалі ваду, якая ўсё прыбывала, некалькі гадзін.

**Уладзіміру Раманчыку**, гаспадару аднаго з бядотных дамоў, патэлефанавалі ў 4 гадзіны раніцы па работу і расказалі пра затапленне. Шкадуе, што не збярэ сёлета ўраджай. Увесь засаджаны агарод захлынуўся вадой. Ул. Раманчык прывык да патопаў, але такі моцны здарыўся на яго памяці ўпершыню. На сваю сядзібу раней навёз 10 самазвалаў гліны. «Куды што дзелася?» – здзіўляецца ён. Сёлета яшчэ і 10 курaнят патанулі. Сабака дык выратаваўся: на будку залез. Козы абаперліся пярэднімі нагамі на плот, каб дыхаць.

**Наталля Мелех**, суседка Уладзіміра, перажывае, што цяпер не будзе чым 3-х дзяцей карміць. Малодшы, 7-гадовы, сын плакаў ад страху, калі іх затапіла. А старэйшы, 12-гадовы, дапамагаў маці змагацца са стыхіяй. Усе дываны з падлогі ў доме паўбіралі, бо вада з яе выступала. Падвал, што пад домам, затапіла поўнасцю разам з рэштaмі леташняга ўраджаю. Свіней і курэй перанеслі ў хату. Са двара ваду вёдрамі чэрпалі.

Каб зайсці ў дом да **Сяргея Савіцкага**, трэба пераадолець 10-метровую дарогу, залітую вадой чуць не па калена. Нават гумовыя боты не дапамагаюць: цячэ праз верх. 8-гадовага сына на падворак не пускаюць. Толькі на руках пераносяць, калі трэба ісці ў школу ці вяртацца з яе.

Урон ад дажджоў вяскоўцам яшчэ не падлічылі, у адрозненне ад калектыўных гаспадарак, дзе вада затапіла 343 гектары палёў, на якіх былі пасаджаныя ячмень, бульба, буракі.

Агульны ўрон ад лівняў склаў 223 мільёны рублёў. Лівень, які прайшоў вечарам у сераду, не абмінуў вёску Дамашы і толькі павялічыў страты. Пры райвыканкоме створаная камісія, якая займаецца ліквідацыяй наступстваў надзвычайнай сітуацыі, у тым ліку і аказаннем дапамогі, якая вельмі патрэбная вяскоўцам.

**Ірына РАБУШКА.**



### Пасол ЗША ў Маладзечне

Пасол ЗША прыехаў у Маладзечна з падарункамі: камп'ютэрамі і кнігамі.



2-я старонка

### Асаблівасці рыбалкі

Віляйчанін Віктар Грышан злавіў на Вілейскім вадасховішчы 7-кілаграмовага сазана.



3-я старонка

### Новыя тэлеканалы

**Цяпер у нашым «Тэлетыдні» — праграма 17 тэлеканалаў. Да традыцыйнага пакета каналаў прыбавіліся ОРТ, ДТВ, TV-21, TV-1000, Discovery.**

**Прыемнага адпачынку каля тэлеэкрана!**

# Гістарычная вандроўка

**17 мая вучні восьмых і дзевятых класаў СШ №4 г.Вілейкі з'ездзілі ў вандроўку па вёсках Вілейскага і Мядзельскага раёнаў.**

Арганізатарам экскурсіі быў наш аўтар, сябар маладзевага грамадскага аб'яднання "Гісторыка" **Аляксей Чубат**. Ён — выпускнік гэтай школы, таму і паездку вырашыў арганізаваць для дзяцей, якія вучацца менавіта там. Цяпер Аляксей заканчвае вучобу на факультэце журналістыкі БДУ.

Экскурсаводам быў **Аляксей Сюдак**, настаўнік гісторыі. Разам хлопцы распрацавалі маршрут, запрасілі дзяцей, настаўнікаў і адправіліся ў дарогу. Вандроўка аказалася надзвычай цікавай. У праграме былі Куранец, дзе вучні наведалі магілу ўдзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага, і мясцовую царкву XVIII стагоддзя.

Наступны прыпынак — вёска Касцяневічы. Там свае дзверы вандроўцам адчыніў касцёл, пабудаваны ў 1763 годзе.

На пад'ездзе да Крывічоў аўтобус прыпыніўся каля вадзянога млына на рацэ Наква. А ў самой вёсцы пунктам агляду сталі касцёл, пабудаваны ў 1776 годзе, і свята-троіцкая царква XIX стагоддзя. У касцёле вандроўцам нават дазволілі падняцца на званіцу, па прыступках якой сотні, а, можа, і больш разоў некалі падымаліся манахі.

Самым далёкім і самым важным месцам наведвання аказаўся Будслаў Мядзельскага раёна. Там знаходзіцца найвялікшы касцёл Беларусі, у якім захоўваецца абраз Маці Божай, падораны Папай Клеменсам VIII мінскаму ваяводзе Яну Пацу ў 1598 годзе. Экскурсію па касцёле правёў ксёндз Славамір. Вучні таксама пабывалі ў склепе, дзе пахаваныя астанкі памерлых. А на мясцовых могілках яны наведалі магілу Паўліны Мядзёлкі, першай выканаўцы галоўнай ролі ў купалаўскай "Паўлінцы".



Вілейскія школьнікі ў сутарэннях касцёла ў Будславе. Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

На зваротным шляху аўтобус спыніўся ў Даўгінаве. Славутасць гэтага мястэчка — касцёл, які сёлета святкуе 150-годдзе, а самой парафіі спаўняецца 450 год. Непадалёк знаходзіцца царква, пабудаваная ў 1870 годзе. А на выездзе з Даўгінава экскурсія наведала звонападобны валун велізарных памераў. На ім бачна выява крыжа і надпіс, па якім сам валун называюць Верацішын хрэст.

Апошнім прыпынкам была вёска Старынкі. У ёй вандроўцы прагуляліся па былых уладаннях паноў Тукайлаў. Хаця і ў дрэнным стане, але захаваліся там і іх магілы.

Пад'язджаючы да Вілейкі, Аляксей Чубат аб'явіў літаратурны конкурс на лепшы твор пра экскурсію, якая адбылася. Найбольш удалыя працы будуць надрукаваныя ў "Рэгіянальнай газеце". Усе засталіся задаволеныя, і толькі адно пытанне цікавіла вучняў і настаўнікаў: калі яшчэ будзе такая вандроўка?



Сустрэўся з дзецьмі з Вілейкі пробашч касцёла ў Будславе ксёндз Славамір. Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

■ СУСТРЭЧЫ

## Яблыні ад ветэранаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У Красненскай вайсковай часці адбылася сустрэча ветэранаў другой сусветнай вайны і ветэранаў інжынерных войскаў з ваеннаслужачымі.**

Ветэраны, якіх было каля 100 чалавек, пасадзілі на тэрыторыі часці сад з пладовых дрэў. Пасля ўдзельнікам сустрэчы арганізавалі экскурсію па Чысці.

**Людміла ПЯТРОВІЧ.**

■ СУСТРЭЧЫ

## Абмен вопытам

**МАЛАДЗЕЧНА. У рамках абмену вопытам паміж прафесійна-тэхнічнымі школамі навучэнцы і выкладчыкі ПТВ-87 сустрэліся са сваімі калегамі з нямецкага горада Эслінгена.**

13 нямецкіх выкладчыкаў і 14 навучэнцаў пабывалі ў майстэрнях і вучэбных класах вучылішча. Іх уразіла, што бюджэт Маладзечанскае ПТВ папаўняе за кошт вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі альбо працуе на заказ прадпрыемстваў. Немцаў засмуціла старое абсталяванне ў вучылішчы і стан тэхнічнай базы.

**Ірына РАБУШКА.**

■ КОНКУРСЫ

## Перамаглі «Тутэйшыя»

**МАЛАДЗЕЧНА. 14 мая ў Мінску прайшоў абласны КВЗ сярод школьнікаў.**

Каманда СШ №7 «Тутэйшыя», якая раней перамагла ў гарадскім конкурсе, стала пераможцай і на абласных спаборніцтвах.

У гульні ўдзельнічала 7 каманд. Маладзечанцы паўдзельнічаюць на рэспубліканскім конкурсе.

**Яўген САВІЦКІ.**

■ ПЫТАЙЦЕСЯ-АДКАЗВАЕМ



## Віза не трэба

**Ці патрэбна мецъ візу для выезду на адпачынак на курорты Расіі, Украіны?**

**Пытанне з анкеты, праведзенай «РГ» у №15 ад 11.04.03г.**

Начальнік аддзялення пашпартна-візавай службы Маладзечанскага ГРАУС **Валерый Кавалёў** сказаў, што з гэтымі дзяржавамі дзейнічае бязвізавы рэжым. І патлумачыў:

— Пашпарт для часовага выезду за мяжу афармляць не трэба. Дастаткова пашпарта ўзору 1996 года неафармленага для часовага выезду за мяжу.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ВІЗІТЫ

## Госць з Украіны

**МЯДЗЕЛ. У вёску Камарова прыязджаў старшыня праўлення асацыяцыі агратурызму Украіны Уладзімір Васільеў.**

Пазнаёміўся ён з тым, якая тут вядзецца работа па развіцці агра- і экатурызму. Госць ацаніў, што рэгіён мае добрыя перадумовы для развіцця гэткага бізнесу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СУСТРЭЧЫ

# Пасол ЗША ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Цёпла, як добрага знаёмага, віталі 21 мая ў гарадской цэнтральнай бібліятэцы Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла ЗША ў Беларусі Майкла Козака.**

У бібліятэку госць тут прыязджаў не ўпершыню: летась у лютым ён быў на адкрыцці дзён амерыканскай культуры ў Маладзечне. Тады ён перадаў падарунак бібліятэцы ад пасольства ЗША: літаратуру аб Амерыцы на замежных мовах, якая дала жыццё бібліятэчнаму аддзелу замежнай літаратуры, і абсталяванне для Інтэрнэт-цэнтра.

У гэты прыезд Майлу Козаку паказалі, як змянілася бібліятэка за мінулы год. Паслу спадабаліся абноўлены ўваход у бібліятэку і чытальная зала. Майкл Козак наведаў Інтэрнэт-цэнтр. Загадчыца Маладзечанскай гарадской бібліятэчнай сістэмы **Ніна Артышэвіч** паведаміла, што за год тут атрымала навыкі работы ў Інтэрнэце звыш 1,5 тысячы чалавек. Гэтая лічба ўсцешыла пасла. Азнаёміўся ён і з Інтэрнэт-сайтамі цэнтральнай гарадской бібліятэкі і дзіцячай музычнай школы. Убачыў і сябе на здымках, зробленых год назад. Пажартаваў, што за гэты час паправіўся.

Майкл Козак прыехаў у Маладзечна не з пустымі рукамі. Дзякуючы пасольству ЗША аддзел замежнай літаратуры атрымаў 2 камп'ютэры і літаратуру на іспанскай мове, якой вельмі не хапала бібліятэцы.

Пасол атрымаў у падарунак брашуру аб Маладзечне, сувенір з выявай праваслаўнай царквы і запрашэнне на чарговы фестываль беларускай песні і паэзіі, а ад нашай рэдакцыі - леташнія нумары «РГ» з матэрыяламі аб апошнім прыездзе ў Маладзечна Майкла Козака і календары з газетнай сімволікай. Пасля Майкл Козак адказваў на пытанні журналістаў. На пытанне карэспандэнта «РГ» аб лёсе падарункаў, якія яму ўручылі летась у Маладзечне, ён сказаў, што саламяная лялька стаіць перад уваходам у яго мінскі дом, а буклет пра Маладзечна ляжыць на кніжнай паліцы. На пытанне аб уражаннях, якія застануцца з ім, М. Козак адказаў, што гэта будуць успаміны аб добрых людзях, з якімі ён пазнаёміўся, і аб канцэртах, якія наладзілі ў гонар яго мінулага прыезду ў Маладзечна.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Надзвычайны і Паўнамоцны пасол ЗША Майкл Козак амаль не змяніўся за год пасля мінулага прыезду ў Маладзечанскую цэнтральную гарадскую бібліятэку. Ва ўсякім разе, галівудская ўсмешка засталася пры ім.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

# Маем права

**У краіне ствараецца Усебеларускі грамадскі рух "За годнае жыццё".**

Са зваротам да грамадзян Беларусі звярнуліся яго ініцыятары – дэпутаты Нацыянальнага сходу Беларусі Валеры Фралоў, Уладзімір Парфяновіч, Сяргей Скрабец, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі Міхаіл Марыніч, кіраўнік Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Уладзімір Колас.

– Больш за дзесяць год наша Радзіма знаходзіцца ў стане глыбокага сістэмнага крызісу, – гаворыцца ў звароце. — Узровень жыцця большасці грамадзян катастрафічна падае.

Калі ж наступіць даўно абяцаная стабілізацыя эканомікі, хаця б якое–кольвечы паляпшэнне жыцця?

– Адказ на гэтае пытанне, – працягваюць аўтары звароту, – вядомы – ніколі, калі ў краіне захаваецца сістэма ўлады, якая дзейнічае, і цяперашнее кіраўніцтва.

Так жыць нельга. Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь павінны мець магчымасць выказваць сваю думку пры рашэнні пытанняў, якія ўплываюць на яго лёс.

Першапачатковымі задачамі аўтары звароту лічаць кансалідацыю ўсіх прагрэсіўных сілаў Беларусі для стварэння моцнага руху за сапраўды народную ўладу, спыненне злоўжыванняў і махінацый пры правядзенні выбараў праз змяненні ў заканадаўстве аб выбарах, забеспячэнне ўсім грамадзянам, партыям і грамадскім аб'яднанням свабоднага доступу да дзяржаўных СМІ, дабівацца захавання канстытуцыйных праваў і свабод, спыніць праслед грамадзян па палітычных матывах.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ЗАХАПЛЕННІ

# Асаблівасці рыбалкі

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. Віляйчанін Віктар Грышан нарадзіўся рыбаком.**

На мінулым тыдні гэта ён пацвердзіў яшчэ раз. Паехаў на рыбалку на Вілейскае вадасховішча. Закінуў вуду – 20 хвілін і 7-кілаграмовы сазан у руках. Паехаў прадаваць на рынак у Маладзечна. Што каля яго люду сабралася! Нават дарослыя ў дзяцейператварыліся, пальцамі тыкаюць, дзіву даюцца.

Рыбацкаму майстэрству навучыў Віктара ягоны бацька. Цяпер удасканальвае сам. Напрыклад, выявіў, што рыба добра ловіцца на свежае сала. Асабліва добра на яго плотка ўзімку ідзе. А вось ветчына рыбам не даспадобы. Добра клюе і на мяса з варанай ракавінкі.

Самы вялікі ўлоў Віктара – 18-кілаграмовы сазан і 14-кілаграмовы шчупак. За ўсё жыццё больш за паўтоны рыбы налавіў. Асаблівы смак – рыбалка "па першым лёдзе". Напрыканцы лістапада – пачатку снежня рыба амаль што сама ў рукі ідзе. Ды і адрэналін у крыві падымаецца, калі ідзеш па тонкім лёдзе.

Бывала, і жонку запал браў. Разам рыбу вудзілі. Цяпер Віктар часцей рыбачыць з Лёнем, сябрам сваім. Здаралася, лёд трэскаўся, і яны праваліваліся. Віктар гаворыць, што на мялі. Каму як, канешне. Калі ўлічыць, што ён 189 см ростам, а праваліўся па грудзі. А то па гадзіне шчупака ці сазана выцягвалі. І не дарэмна. Вельмі смачную ўху жонка з сазанавай галавы гатуе.

**Віляйчанін Віктар Грышан злавіў у Вілейскім вадасховішчы 7-кілаграмовага сазана.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Рыба, бадай, галоўная страва на сямейным стале. Частуе рыбай сваіх сяброў. Тыя яму потым рыбацкія падарункі робяць. Надарылі 15 вудаў з наваротамі. Але Віктар марыць аб такой, што не ламаецца і вытрымлівае вялікія нагрузкі. Бо 30% ад улову, як ён кажа "крупняка", зрываецца з вуды.

Нягледзячы на тое, што Віктар 7 гадоў адпрацаваў вадзіцелем у Вілейскім РТМА і нядаўна пайшоў адтуль, рыбалка для яго — гэта не бізнес, а адпачынак. Рыба яму нават сніцца. Такі сон азначае альбо да прыбытку, альбо наадварот. Праверана ўласным вопытам.

**Ірына РАБУШКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 15.05 руб. | 22.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2029,00 | 2035,00 |
| Еўра | 2338,12 | 2383,80 |
| Злоты | 540,46 | 544,41 |
| Літ | 677,18 | 690,47 |
| Расійскі рубель | 65,49 | 65,88 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2020/2030 | 2025/2035 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 14.05 | 21.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 12200 | 12200 |
| Сасіскі, 1 кг | 4050 | 4050 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | – |
| Рыс, 1 кг | 780 | 800 |
| Грэчка, 1 кг | 1450 | 1500 |
| Цукар, 1 кг | 1140 | 1240 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1000 |
| Алей, 1 л | 1800 | 1750 |
| Маянэз, 200 г | 470 | 470 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 750 | 750 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1200 | 1200 |
| Капуста, 1 кг | 980 | 1100 |
| Морква, 1 кг | 1350 | 1400 |
| Лімоны, 1 кг | 2500 | 2550 |
| Апельсіны, 1 кг | 1750 | 1760 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 650 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4400 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1200 |



# Куды пайсці вучыцца

### Лідскі дзяржаўны педагагічны каледж

аб'яўляе прыём навучэнцаў на 2003 год

На дзённае навучанне на аснове базавай адукацыі па спецыяльнасцях: **«Пачатковая адукацыя»** з адной са спецыялізацый: **творчая дзейнасць** (кіраўнік студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва); **экалагічнае выхаванне** (кіраўнік гуртка эколага-натуралістычнай работы); **карэкцыйная работа** (настаўнік пачатковых класаў); **рытміка і харэаграфія** (настаўнік рытмікі і харэаграфіі).

**«Дашкольная адукацыя»** з адной са спецыялізацый: **лагапедыя** (выхавацель лагапедычнай групы); **рытміка і харэаграфія** (кіраўнік гуртка рытмікі і харэаграфіі); **замежная мова** (англійская) – выхавацель дашкольнай установы з дадатковым вывучэннем замежнай мовы.

Прыём дакументаў – з 15 чэрвеня па 31 ліпеня. Дакументы накіроўваць па адрасу: **231300, Гродзенская вобласць, г. Ліда, вул.Кірава, 20. Педагагічны каледж**. Даведкі аб прыёме па тэлефонах у г. Ліда: **3-10-01**, **2-24-94**. Для абітурыентаў арганізуюцца платныя падрыхтоўчыя курсы па прадметах уступных экзаменаў з 17 па 30 ліпеня.

### Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт

**(Вышэйшая Школа Кіравання і Бізнесу)**

Аб'яўляе прыём абітурыентаў на 2003-2004 навучальны год на базе сярэдняй спецыяльнай адукацыі на завочную форму навучання на платнай аснове па спецыяльнасцях:

– **Бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт** (кваліфікацыя: "Эканаміст");

– **Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве** (спецыялізацыя: "Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве прамысловасці"; кваліфікацыя: "Эканаміст-менеджэр").

Тэрмін навучання 3 гады 10 месяцаў. Паступаючыя на базе сярэдняй спецыяльнай адукацыі падаюць наступныя дакументы: дыплом ( у арыгінале з дадаткам), выпіску з працоўнай кніжкі, 3 фатаграфіі 3х4, заяву ўстаноўленага ўзору. Паступаючыя на завочную форму навучання праходзяць субяседаванне замест уступных экзаменаў па наступных прадметах: матэматыка (пісьмова), замежная мова (вусна), беларуская (руская) мова і літаратура (вусна).

**Прыём дакументаў з 23 чэрвеня па 12 ліпеня** 2003 г па адрасе: г. **Маладзечна, Цэнтральная плошча, 2, кабінет 307**. Субяседаванне праводзіцца з 9 па 14 жніўня 2003 г. Залічэнне на ўмовах аплаты ажыццяўляецца да 17 жніўня 2003 г. Даведкі па тэлефонах: г. Маладзечна **70372**, г. Мінск **2302932**.

### Навагрудскі дзяржаўны гандлёва-эканамічны каледж

аб'яўляе прыём навучэнцаў на 2003 год па наступных спецыяльнасцях і формах навучання: дзённая (ДЗ), завочная (З)

НА АСНОВЕ БАЗАВАЙ АДУКАЦЫІ (ДЗ) 9 класаў.

*Бюджэтнае навучанне:*

— **Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль у прамысловасці**

— **Эканоміка і арганізацыя вытворчасці на прадпрыемствах гандлю**

— **Банкаўская справа**

Уступныя экзамены: матэматыка (пісьмова), беларуская ці руская мова (дыктант)

*Платнае навучанне:*

— **Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль у гандлі**

— **Банкаўская справа**

Уступныя іспыты: конкурс сярэдняга бала дакумента аб адукацыі.

Экзамены: матэматыка (пісьмова), беларуская ці руская мова (дыктант).

НА АСНОВЕ АГУЛЬНАЙ СЯРЭДНЯЙ АДУКАЦЫІ 11 класаў

*Бюджэтнае навучанне*

— **Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль у гандлі** (ДЗ), (З)

— **Банкаўская справа** (ДЗ)

— **Камерцыйная дзейнасць** (З)

Уступныя экзамены: матэматыка (вусна), беларуская ці руская мова (дыктант).

*Платнае навучанне:*

— **Бухгалтаркі ўлік, аналіз і кантроль у прамысловасці** (ДЗ), (З)

— **Эканоміка і арганізацыя вытворчасці** (ДЗ)

— **Камерцыйная дзейнасць** (З)

Уступныя іспыты: а) конкурс сярэдняга бала дакумента аб адукацыі (ДЗ, З), б) экзамены : матэматыка (вусна), беларуская ці руская мова (дыктант) (ДЗ, З), в) субяседаванне (З)

**Тэрмін прыёму дакументаў**

У групах дзённага навучання: на аснове базавай адукацыі – з 15 чэрвеня па 31 ліпеня, на аснове сярэдняй адукацыі – з 15 чэрвеня па 7 жніўня;

У групах завочнага навучання: з 3 мая па 10 жніўня.

Падрыхтоўчыя курсы: з 7 па 19 ліпеня.

Адрас: **г. Навагрудак, вул. А. Міцкевіча, 15**.

Кантакт. тэлефоны: **(8-01597) 21642, 21659**, **21616**.

### Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі

аб'яўляе ў 2003 г. прыём на першы курс па наступных спецыяльнасцях

***Набор на першы курс на бюджэтнай аснове***

**Факультэт кам'ютэрнага праектавання**: **праектаванне і вытворчасць радыёэлетронных сродкаў** (усяго: 30, у т.л дзённая — 20, вячэрняя —, завочная –10); **медыцынская электроніка** (35, 25, - , 10)*; **электронныя вылічальныя сродкі** (35, 35, —, —)*; **электронна-аптычнае апаратабудаванне** ( 20, 20, —, —)*; **мадэліраванне і камп'ютэрнае праектаванне радыёэлектронных сродкаў** (40, 30, -, 10)*; **тэхнічнае забеспячэнне бяспекі** (45, 20, 15, 10)*

**Факультэт інфармацыйных тэхналогій і кіравання**: **інфармацыйныя тэхналогіі і кіраванне у тэхнічных сістэмах** (115, 85, 15, 15)*; **аўтаматызаваныя сістэмі апрацоўкі інфармацыі** (50, 50, —, —)*; **штучны інтэлект** (50, 50, —, —)*;

**Факультэт радыётэхнікі і электронікі**: **мікра- і нанаэлектронныя тэхналогіі і сістэмы** (35, 25, -, 10)*; **радыётэхніка** (40, 25, —, 15)*; **радыёэлектронныя сістэмы** ( 40, 40, —, —)*; **радыёінфарматыка** (65, 50, 15, -)*; **квантавыя інфармацыйныя сістэмы** (15, 15, —, —)*

**Факультэт камп'ютэрных сістэм і сетак**: **вылічальныя машыны, сістэмы і сеткі** (130, 95, 20, 15)*; **праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій** ( 60, 60, —, —)*; **інфарматыка** (50, 50, —, —)*

**Факультэт тэлекамунікацый**: **сеткі тэлекамунікацый** ( 80, 50, 15, 15)*; **метралогія, стандартызацыя і сертыфікацыя** (інфарматыка, радыёэлектроніка і сувязь) (25, 25, —, —)*; **сістэмы радыёсувязі, радыёвяшчання і тэлебачання** (30, 15, 15, —)*; **шматканальныя сістэмы тэлекамунікацый** (40, 25, -, 15)*

**Эканамічны факультэт**: **маркетынг** (25, 25, —, —)*; **эканоміка і арганізацыя вытворчасці** (радыёэлектронныя і інфармацыйныя паслугі) (40, 25, -, 15)*; **інфармацыйныя сістэмы і тэхналогіі** (у эканоміцы) (40, 40, —, —)*

Заўвага: * 1-я лічба – усяго месцаў, 2-я – дзённая форма навучання, 3-я – вячэрняя, 4-я – завочная.

***Навучанне на дагаворных умовах.***

У абітурыентаў, якія не прайшлі па конкурсу, ёсць магчымасць вучыцца за аплату. Залічэнне на першы курс навучання на платнай аснове ажыццяўляецца згодна з правіламі прыёму ў БДУІР. Колькасць студэнтаў, якія навучаюцца платна, на сённяшні дзень складае 30%. Студэнты , якія вучацца на "добра" і "выдатна", могуць быць пераведзены на навучанне за лік дзяржаўнага бюджэту, а пры адсутнасці бюджэтных месцаў прадугледжана скідка па аплаце. Так, на працягу 2002-2003 навучальнага года каля 100 студэнтаў БДУІР пераведзены з платнай формы навучання на бюджэтную і 300-м студэнтам зніжаны памер аплаты з 25 да 50%.

**На дзённую форму навучання дакументы прымаюцца** з 23 чэрвеня па 4 ліпеня, **на вячэрнюю і завочную формы навучання** — з 23 чэрвеня па 11 жніўня, **на навучанне на дагаворных умовах** – з 22 ліпеня па 30 жніўня.

Адрас: **Мінск, вул. П. Броўкі, 6**. http: //www.bsuinunibel.by

Тэл. у Мінску **2398815** (прыёмная камісія), **2398649** (падрыхтоўчае аддзяленне), **2398099** (падрыхтоўчыя курсы), **2398040** (цэнтр тэсціравання).

Праезд: трал. 1,2, аўт. 100 да прыпынку "Вуліца П. Броўкі", ст. метро "Акадэмія навук".

### Беразінскае ПТВ-42

аб'яўляе прыём навучэнцаў на 2003-2004 навучальны год на базе 9 класаў на 3-гадавы тэрмін навучання па прафесіях: **трактарыст-машыніст з уменнем выконваць сельскагаспадарчыя і эскаватарныя работы, вадзіцель аўтамабіля, слесар-рамонтнік**; **электрагазазваршчык, вадзіцель аўтамабіля**; **слесар па рамонце аўтамабіляў, вадзіцель аўтамабіля** (ліцэйская група); **электраманцёр па рамонце і абслугоўванні электраабсталявання, вадзіцель аўтамабіля**; **майстар сельгасвытворчасці** (з кваліфікацыяй трактарыст-машыніст, вадзіцель аўтамабіля, электрагазазваршчык).

**Для паступлення неабходна падаць наступныя дакументы**: заяву, пасведчанне за 9 класаў, пасведчанне аб нараджэнні, даведку з месца жыхарства аб складзе сям'і, медыцынскую даведку №086У, 25Ю, 6 фотакартак 3х4.

Вучылішча забяспечвае ўсіх, хто мае патрэбу, інтэрнатам і бясплатным 3-разовым харчаваннем.

*У навучэнцаў, якія скончылі групу ліцэя па спецыяльнасці "Слесар па рамонце аўтамабіляў", ёсць магчымасць прадоўжыць навучанне ў Мінскім аўтамеханічным каледжы (прыём па выніках субяседавання на скарочаны курс навучання) і ў іншых ССНУ і ВНУ.*

Адрас вучылішча: **222313, Маладзечанскі раён, п. Беразінскае, ПТВ-42**. Тэлефоны: **25562**, **25721**, **25661**.

### Маладзечанская школа-інтэрнат №2 для дзяцей з парушэннямі зроку

аб'яўляе набор у падрыхтоўчы, 1, 2, 3, 4 класы на 2003-2004 навучальныя гады.Навучанне і харчаванне бясплатнае. **Т. у Маладзечне 74016, 74122**.

 



■ ЗДАРЭННІ

# Знікаюць вяскоўцы і гараджане

**МАЛАДЗЕЧНА. Пайшоў з дому і не вярнуўся. Такі запіс у міліцэйскай зводцы можна прачытаць даволі часта.**

Па словах старшага оперупаўнаважанага аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага ГРАУС **Віктара Якуновіча**, цяпер у вышуку знаходзіцца 6 чалавек. Адзін з іх — мінчанін, які працаваў доктарам-гінеколагам у Радашкавіцкай бальніцы, прапаў сёлета ў студзені. Астатніх адшукваюць з мінулых гадоў.

Вышуковая справа заводзіцца 10 гадоў і столькі ж часу шукаюць чалавека. Для параўнання: злачынца шукаюць 15 гадоў.

## У пагоні за грашыма

Часцей за ўсё знікаюць 20-50-гадовыя мужчыны, якія едуць на работу ў Маскву і вобласць. Падобныя выпадкі сталі частымі і ў Калінінградскай вобласці. В.Якуновіч гаворыць, што ў такім выпадку вышуковую справу завесці складана. Бо чалавек знік не на нашай тэрыторыі. Таму вышукам павінна займацца тая міліцыя, з мясцовасці якой ён знік. Але і гэта зрабіць складана. Часта нашы людзі знаходзяцца ў Расіі нелегальна. Здараецца, нават не ведаем горада, дзе шукаць чалавека. Тады робім запыты на вобласць. З 20 запытаў, што зрабілі сёлета, атрымалі звесткі пра трох чалавек. Каб зрабіць запыт, трэба ад зніклага чалавека пацвярджэнне: апошнія званок, пісьмо, запіска з той ці іншай мясцовасці.

... У пагоні за грашыма сябры паехалі ў Расію. Вярталіся на машыне і пасварыліся. Адзін з іх махнуў рукой і выйшаў на мяжы Маскоўскай і Смаленскай абласцей. Да гэтага часу невядома, дзе ён.

... Вырашыў зарабіць грошы ў Расіі. Не атрымалася. Трапіў у адзін з прыёмнікаў-размеркавальнікаў. Без грошай. Ні паведаміць аб сабе, ні прыехаць не можа.

... Жонка шукае мужа, які паехаў падзарабіць грошы. Ніякіх звестак аб ім няма. Супрацоўнікі міліцыі зрабілі запыт. На што гора-муж адказаў: "А мне і тут добра. Я знайшоў сабе жанчыну".

... Муж з жонкай пасварыліся. І ён паехаў у Расію на заробкі. У Маскве трапіў у няволю. Здаецца, і кармілі, і работа была, але грошай не давалі. Уцёк. Дабіраўся на пераклад-ных.

## Непаўналетнія

Як правіла, прападаюць з няпоўных і няўдачных сем'яў. Але і добрыя сем'і не выключэнне.

14-17-гадовыя хлопчыкі знікаюць на адну ноч. Яны засяджваюцца ў начных камп'ютэрных клубах. Раніцай баяцца ісці дадому. Бадзяюцца па горадзе. Увечары самі вяртаюцца.

Такога ж узросту дзяўчынкам падабаецца разгульнае жыццё. У іх ёсць свае грошы, якія трацяць у барах і на дыскатэках. "Дарослыя жаніхі" катаюць дзяўчат на машынах. Далёка. Адна 15-гадовая патэлефанавала з Масквы і сказала, што не прыедзе, пакуль не споўніцца 18 гадоў. Паўгода да гэтага ўзросту не дачакалася і вярнулася з дзіцем на руках.

16-17-гадовыя дзяўчаты вялікія аматаркі патанцаваць. Скажуць бацькам, што едуць да бабулі. А самі на вясковую дыскатэку... на некалькі дзён. Затрымліваюцца ў доме правапажатага і гавораць, слухаюць музыку. Дарэчы, праслухоўванне музыкі не заўсёды заканчваецца згвалтаваннем.

Звычайна падлеткі сходзяць, калі пасварыліся з бацькамі ці якія нелады ў школе. Так атрымалася і з 12-гадовай дзяўчынкай. Вучылася яна добра і сям'я была добрая. Украла ў свайго дзядулі 200 долараў і з'ехала ў Мінск. Зняла кватэру і жыла 2 тыдні. Некалькі гадоў таму, успамінае Віктар Якуновіч, шукалі маленькіх брата і сястру. Гэта было зімой. Гулялі яны на рэчцы. Лёд праламаўся і дзеці патанулі. Хлопчыка знайшлі, а дзяўчынку – не. Як цяпер В.Якуновіч памятае некранутую сцежку дзіцячых слядоў на снезе.

Здараецца, што малыя блудзяць у дварах. Ці катаюцца на аўтобусе. Такіх на працягу сутак знаходзяць. Бывае, тэлефануюць дарослыя. Знайшлі дзіця, а яно аб сабе нічога не ведае. Немаўляткі з калясак не прападаюць. А вось каляскі рэгулярна, асабліва з дзіцячай палікінікі.

## Пайшлі ў загул

Сярэдні ўзрост тых, хто загульвае, — 35 гадоў. Гэта камандзіраваныя, людзі з вялікай сумай грошай ці без іх. Здараецца такое і з жанчынамі.

... Яны былі ў разводзе. Жанчына пайшла да палюбоўніка. Былы муж не саступаў: усё роўна мы будзем жыць разам.

... Мужчына жыве на Старым Месце. Пайшоў у горад шукаць работу. Трапіў у прытон. Піў паўтара тыдня. Дарэчы, прытон знаходзіцца непадалёк ад будынка міліцыі.

... Вярнуўся з камандзіроўкі. Мужчына займае кіруючую пасаду. Яго давезлі амаль да самага дома. Выйшаў з машыны. Сустрэў свайго знаёмага. Выпілі ў бары. Радасць сустрэчы святкавалі 5 дзён.

... Прыехаў з Выверау праходзіць медыцынскую камісію, каб уладкавацца на работу. Камісію праходзіў 2 тыдні... са шклянкай у руках.

## Псіхічнахворыя, старыя і самазабойцы

Людзей, якія адносяцца да гэтай катэгорыі, адшукаць складаней за ўсё. Псіхічнахворыя і старыя часта страчваюць памяць. Яны могуць ісці ў любым накірунку і нічога не ведаць аб сабе. Самазабойцы – ад непаўналетніх да пенсіянераў – пазбаўляюцца жыцця ў бязлюдных месцах.

... У лютым прапалі 2 сяброўкі 1989 і 1987 гадоў нараджэння. Псіхічнахворыя дзяўчынкі сустрэліся на вуліцы і пайшлі да хлопцаў у суседні інтэрнат. На наступны дзень раніцай іх знайшлі.

... Маці прыехала з Вільні да сына ў Вязынку. У жанчыны 1925 года нараджэння адбыўся інсульт. Пасля бальніцы амаль не хадзіла. Праз тры дні пайшла з дому. Да вечара апынулася ў Красоўшчыне, пераадолеўшы 10 кіламетраў. Яна пераначавала ў хаце лесніка. Адшукалі жанчыну праз месяц у Гудагайскай бальніцы. Прасябе амаль нічога не магла сказаць. Сын забраў яе і адвёз у Вільню.

... 17-гадовы хлопец з Чысці павесіўся ў паддашку шматпавярхоўкі. Знайшлі праз тры дні.

... Летась на дачы ў Плёсах патанула ў Віліі жанчына. Муж знайшоў запіску: надакучыла жыць. Цячэнне аднесла цела на 2-3 кіламетры. Выцягнулі яго рыбакі-браканьеры сеткай.

Віктар Якуновіч гаворыць, што ў горадзе і раёне прападае прыкладна аднолькавая колькасць людзей. Толькі вяскоўцы больш "цярплівыя". Бывае, прападзе непаўналетні, а сваякі толькі праз тыдзень у міліцыю звяртаюцца. А ў горадзе, калі дзень і ноч не прышоў, ідуць шукаць.

**Ірына РАБУШКА.**




Каб завесці вышуковую справу на зніклага чалавека, старшаму ўпаўнаважанаму аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага ГРАУС Віктару Якуновічу трэба аформіць 15 дакументаў. Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Колькі зніклых адшуквае Маладзечанскі ГРАУС**




■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Залезлі праз дах

**МАЛАДЗЕЧНА. 15 мая ў 9.35 загадчыца вясковага магазіна ў вёсцы Малашкі паведаміла міліцыі, што ў магазін залезлі злодзеі.**

Для гэтага яны праламалі дах. З магазіна вынеслі тавару на 590 тысяч рублёў. Злодзеяў затрымалі.

## Зглададаўся

**МАЛАДЗЕЧНА. 16 мая затрымалі злодзея, які выкраў 20 кілаграмаў сала і 15 кілаграмаў свінога кумпяка.**

Злодзеям аказаўся вясковец з Турэц-Баяраў. Цяпер ён знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

# Будзьце асцярожнымі на вуліцах

**МАЛАДЗЕЧНА. Колькасць злачынстваў за 4 месяцы гэтага года, якія здзяйсняюцца ў грамадскіх месцах, вырасла ўдвая.**

Сёння ў горадзе кожнае дзесятае злачынства адбываецца на вуліцах. Як зазначыў намеснік начальніка Маладзечанскага ГРАУС **Міхаіл Шут**, падобныя злачынствы раскрываюцца толькі напалавіну.

Чаму так атрымліваецца?

Па-першае, забеспячэнне грамадскіх месцаў вартавымі правапарадку, якія своечасова адрэагуюць на канфліктную сітуацыю. Да канца года ў горадзе размесціцца дадатковая рота ўнутраных войск.

Па-другое, не заўсёды правільныя паводзіны вулічных ахвяраў. Супрацоўнікам міліцыі лягчэй знайсці злачынцу па гарачых слядах. Для гэтага трэба пазваніць у міліцыю па 02 адразу пасля нападзення, а не праз дзень ці два. Верагоднасць раскрыцця вулічных злачынстваў пры познім звароце пацярпелых рэзка зніжаецца.

Трэці фактар - сумленне гараджан, якія расказваюць аб акалічнасцях здарэння. За першы квартал заведзены 4 крымінальныя справы за дачу наўмысна несапраўдных звестак. У красавіку па гэтай справе асуджаны 33-гадовы маладзечанец, які звярнуўся ў міліцыю са скаргай аб тым, што яго збілі невядомыя. Аказалася, ён сам учыніў бойку ў сваёй кватэры і пацярпеў пры ёй. Суд прыгаварыў яго да 1 года папраўчых работ па месцы працы з утрыманнем 15% зарплаты.

Сустракаюцца і несапраўдныя выклікі. Напэўна, не кожны з «жартаўнікоў» ведае, што за гэта можна атрымаць штраф у 10 базавых велічынь. Яшчэ стаіць на павестцы дня праблема адсутнасці альтэрнатывы выцвярэзніку, які зачынілі летась, бо не зніжаецца доля злачынстваў, здзейсненых у нецвярозым стане. Іх больш за трэць ад агульнай колькасці. Ускосную «дапамогу» аказваюць гандлёвыя пункты, якія прадаюць спіртное кругласутачна.

**Самыя небяспечныя месцы ў Маладзечне.** Гэта гарадскі парк, вуліцы Хмяльніцкага, Скарыны, Міру, Вялікі Гасцінец, Цэнтральная плошча.

**Злачынцы і іх метады.** Пры нападзенні звычайна дзейнічае група з 2-3 чалавек. Яны «працуюць» у цемры. Іх ахвяры - людзі, якія ідуць адныя, асабліва нападпітку.

**Як не стаць ахвярай злачынца.** Старайцеся хадзіць вечарам па вуліцах са знаёмымі і ў асветленых месцах. Калі адчуваеце небяспеку, перайдзіце на іншы бок вуліцы або зайдзіце ў пад'езд, каб злачынца думаў, што вы прыйшлі дадому.

**Калі на вас напалі.** Хутка звярніцеся ў міліцыю па тэлефоне 02 або перадайце інфармацыю праз персанал ААТ «Ліфтсервіс». Гэта можна зрабіць, калі націснуць у ліфце кнопку выкліку. Запомніце адзенне, мову, узрост, асаблівыя прыкметы злачынцаў. Пры дачы паказанняў будзьце праўдзівыя.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

 

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Трагічны лёс людзей і помнікаў

**Паўстанне 1863-64 гадоў за нацыянальнае адраджэнне Беларусі пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага з'явілася адной з важных вех у гісторыі Вілейшчыны, дзе адбыліся два значныя баі касінераў з царскімі войскамі. Адзін з іх добра асветлены ў літаратуры – кровапралітная бітва паўстанцкага атрада Вілейскага павета, пад кіраўніцтвам ураджэнца мясцовага маёнтка Сэрвач Вінцэнта Козела-Паклеўскага 16 (28) мая 1863 года на беразе паўнаводнай тады ракі Ілія каля вёскі Уладыкі. У гэтыя дні спаўняецца 140 год з таго часу.**



Удзельнікі ўшанавання памяці загінуўшых паўстанцаў у 30-я гады каля вёскі Уладыкі. Фота з архіва жыхара вёскі Куранец Я. Дубовіка.



Помнік змагарам за незалежнасць радзімы 1863 года ў Куранцы. Фота з фондаў літаратурна-краязнаўчага музея Ільянскай СШ.

У брацкай магіле разам з камандзірам былі пахаваныя каля 70 паўстанцаў. У 1933 годзе там устанавілі мемарыяльную пліту і вялікі драўляны крыж. Крыжа ўжо няма, а пліта паступова разбураецца.

Другое ўпартае супраціўленне няўрадавым войскам было аказанае паўстанцкім атрадам Свянцянскага павета на чале з Густавам Чаховічам каля вёскі Каралеўцы (у той час амаль уся правабярэжная тырыторыя ад ракі Нарачанкі сучаснага Вілейскага раёна ўваходзіла ў склад Свянцянскага павета). Бой працягваўся больш за 3 гадзіны, страты былі ўзаемныя, але сілы няроўныя, і касінеры вымушаныя былі пакінуць на полі бою сваіх таварышаў, што загінулі, і адступіць. Частка з іх была пахаваная ў жвіровых кучах каля вёскі Вуткі. Раней там стаяў крыж, які ўжо даўно згніў, а магілы былі разрытыя пры здабычы будаўнічага матэрыялу для дарогі. Месца таго бою і цяпер мясцовыя старажылы называюць Бітым Логам. 18 іншых паўстанцаў, што загінулі, былі пахаваныя ў брацкай магіле, якая знаходзіцца цяпер за будынкам канторы калгаса "Вілейскі" ў вёсцы Куранец. У той час там быў касцёл і каталіцкія могілкі. У 1923 годзе на брацкай магіле былі устаноўлены бетонны помнік у выглядзе крыжа з надпісам на польскай мове: "18 паўстанцаў. 1863 г.". Пазней на тэрыторыі сучаснай бальніцы ў Куранцы быў устаноўлены помнік змагарам за незалежнасць радзімы 1863 года ( гл. здымак), аўтарам якога з'яўляўся П. Германовіч. Здымак зрабіў вядомы ў той час на ўсю акругу фатограф з Вілейкі Б. Берман, які ў 1939 годзе быў арыштаваны органамі НКУС толькі за тое, што некалькі разоў фатаграфаваў мясцовых паліцэйскіх, і асуджаны на 8 год ссылкі. Далейшы лёс яго невядомы.

А арыгінальны помнік быў знішчаны ўжо ў пасляваенны час савецкімі ўладамі. Цяпер на гэтым месцы на яго падмурку зробленая дэкаратыўная ваза для вырошчвання кветак. Падобная гісторыя здарылася і з помнікам-манументам у Ільі, які быў урачыста адкрыты ў 1930 годзе з удзелам тагачаснага прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага. Яшчэ адна брацкая магіла паўстанцаў з крыжам, якая знаходзілася каля дарогі, што вядзе з Даўгінава ў Пагост, таксама даўно зруйнаваная.

На радзіме актыўных удзельнікаў паўстання, братоў Козел-Паклеўскіх, яшчэ ў мінулым стагоддзі быў узведзены фамільны склеп з капліцай, які сучасныя вандалы абрабавалі год 15 таму. Цяпер падзямелле засыпанае зямлёй, а капліца добраўпарадкаваная, і ў ёй рэгулярна праходзіць богаслужэнне.

Як успамінаў у сваіх "Лістках календара" народны паэт Беларусі Максім Танк, у міжваенны перыяд у Сэрвачы стаяў вялікі крыж у гонар землякоў-паўстанцаў 1863 года. Тут жыла з сям'ёй яго родная сястра Вера Лётка, да якой паэт-рэвалюцыянер па магчымасці прыязджаў або прыходзіў пешшу ў госці.

У 1943 годзе сям'я Лёткаў была расстраляная бандытамі і пахаваная на могілніку ў вёсцы Касцяневічы, куды М. Танк пазней неаднаразова наведваўся.

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**

■ ГАСЦЁЎНЯ

# Аляксей Чубат хоча пераламаць стэрэатыпы

**Мінск. У нумары № 15 за 11 красавіка "Рэгіянальная газета" паведамляла пра нашага земляка Аляксея Чубата, які трапіў у фінал літаратурнага конкурсу імя Наталлі Арсенневай.**

Конкурс праводзіўся Рэспубліканскай грамадскай арганізацыяй "Беларускі ПЭН-цэнтр", што яднае 82 беларускіх літаратараў. "Беларускі ПЭН-цэнтр" – гэта філіял Міжнароднай арганізацыі, пад крысом якой кантактуюць, абменьваюцца вопытам пісьменнікі з усяго свету. Тры вялікія літары азначаюць назвы "паэт", "эсэіст" і "навеліст". Напачатку XX стагоддзя арганізацыя паўстала па ініцыятыве выбітнага англійскага пісьменніка Джона Галсуорсі. Тады яна аб'ядноўвала людзей, якія працавалі ў гэтых жанрах. Але потым яе дзейнасць пашырылася, і ў Міжнародны ПЭН-клуб пачалі ўваходзіць літаратары, якія працуюць у іншых напрамках. Тым не менш, элітарнасць арганізацыі захавалася. Таму з пяці сотняў сённяшніх сяброў Беларускага саюза пісьменнікаў у "Беларускі ПЭН-цэнтр" уваходзіць толькі дзесяць.

Карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" задаў Аляксею Чубату некалькі пытанняў:

**– Прыемна, калі наш зямляк перамагае ў літаратурным конкурсе рэспубліканскага ўзроўню. Канешне, 23 гады – гэта толькі пачатак літаратурнага ўзлёту, але, расказжыце, калі ласка, Аляксей, які быў ваш шлях да перамогі ў конкурсе?**

– Так, дваццаць тры гады – узрост немаўляці, калі браць літаратурнае вымярэнне. Таму, калі я пачынаў пісаць у 15 гадоў і друкавацца ў 18, тое было яшчэ не узростам, а перыядам, які бывае перад нараджэннем. Пачынаў збольшага з вершаў, якім і зараз аддаю перавагу, бо лічу, што для прозы або драмы патрэбны дастатковы жыццёвы досвед. Канешне, літаратурай называць першыя юнацкія творы можна з нацяжкай, звычайна ўсё пачынаецца гуляннем з рыфмай і рытмам. Потым, калі пачытаеш, бачыш, што шмат хто з пісьменнікаў гаварыў такім самым голасам, адчуваеш літаратурнае рознагалоссе – тады прыходзіць свой, асабісты погляд на ўсё: жыццё, смерць, каханне. Пазія ў тым, каб больш дасканала, па-майстэрску данесці беларускім словам свае адчуванні, паказаць эстэтыку беларуса і ў той жа час грамадзяніна Сусвету.

**– Дзе вы друкаваліся?**

– Вершы свае я друкаваў шмат дзе. Напрыклад, у "Маладосці", "Першацвеце", "Крыніцы". Гэта часопісы. У газеце "Наша Ніва", "Наша слова".

**– Раскажыце, што ўяўляў літаратурны семінар?**

– Ён праходзіў у Доме літаратара ў Мінску і складаўся з дзвюх частак: тэарэтычнай і практычнай. Удзельнікі семінара, з дапамогай старэйшых калег, аналізавалі свае творы, выказвалі крытычныя заўвагі аб творчасці сяброў. Спрабавалі сябе ў паэтычным перакладзе.



Фіналіст літаратурнага конкурсу імя Наталлі Арсенневай наш аўтар Аляксей Чубат (справа) побач з беларускім паэтам Рыгорам Барадуліным. Фота Сяргея ДАВІДОВІЧА.

Лекцыю аб культуры мовы, правільным маўленні і пісанні нам чытаў Пётр Садоўскі, доктар філалагічных навук, былы пасол Беларусі ў Германіі (1992-1995 гг.). Таксама сваімі ведамі пра беларускую мову дзяліўся Зміцер Саўка, супрацоўнік Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Андрэй Дынько, галоўны рэдактар газеты "Наша Ніва", распавядаў пра літаратурныя працэсы, што адбываюцца ў нашай краіне. Пра гэта ж і пра сваю творчасць дзяліўся з удзельнікамі семінара пісьменнік Уладзімір Арлоў. Выбітны перакладчык Васіль Сёмуха, які пераклаў "Біблію" на беларускую мову, знаёміў з досведам перакладу. У апошні, чацвёрты дзень семінара ўсе фіналісты, 18 чалавек, выступалі на сцэне Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Чыталі свае вершы, пераклады. Дапамагаў нам у гэтым вядомы гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч, які аздабляў сваёй музыкай вечарыну.

**– Як наконт таго, каб выдаць кнігу?**

– Я думаю пра гэта, але хутчэй за ўсё справа будзе не хуткая. Тут і фінансавыя абмежаванні, ды лічу, што яшчэ трэба папрацаваць над словам і формай, каб можна было прапанаваць чытачу вартыя ўвагі вершы. Калі гэта адбудзецца, пастараюся, каб чытачы "Рэгіянальнай газеты" даведаліся пра выхад кнігі найперш.

**– Ці ёсць у вас творчае крэда?**

– Так, ёсць. Я хачу паказаць у сваёй творчасці іншую Беларусь. Не традыцыйна-сялянскую з адпаведнымі поглядам і падыходам да яе, а сучасную, краіну XXI стагоддзя. Прычым я не хачу сягаць толькі ў адны нябёсы, як гэта робяць некаторыя маладыя пісьменнікі ў Беларусі. Я гляджу на старажытную краіну, але гляджу позіркам сучаснага чалавека, беларуса, які жыве ў інфармацыйным свеце.

Зразумела, што ўсе нашы адносіны да сябе, да людзей сфармаваныя ўчарашнім днём. І стэрэатыпы, у якіх жыве чалавецтва, заўсёды цягнуць яго назад. Глядзець на адносіны паміж людзьмі позіркам чалавека з мінулага, азначае, на маю думку, быць праціўнікам прагрэсу. Вялікае ўменне, калі чалавек можа ўзірацца ў жыццё хаця б з сённяшняга дня. Я буду дзякаваць богу, калі ён дасць мне магчымасць глядзець на Беларусь з паўкрока наперад.

**Сяргей ДАВІДОВІЧ.**

# Будзем будаваць з трыснягу

**МЯДЗЕЛ. 17 мая ў Занарачы адкрыўся цэх па выпуску камышыту – экалагічна чыстага таннага будаўнічага матэрыялу, які можа скарыстаць кожны, хто будуе сабе жыллё.**

Цэх адкрыла міжнароднае дабрачыннае грамадскае аб'яднанне "ЭкаДом" пры партнёрскай падтрымцы нямецкай дабрачыннай арганізацыі "Дамы замест Чарнобыля", федэральнага бюджэту Германіі і асабістых складак дзесяткаў жыхароў нямеччыны. Толькі грошай нямецкай дзяржавы ў праект укладзена 34 тысячы еўра. Яны пайшлі на пакупку абсталявання.

Цэх размясціўся ў памяшканні калгаса "Шлях да камунізму", які раней выкарыстоўваўся як склад. Тут размясціўся станок, прывезены з Германіі, некаторыя іншыя прылады і простыя механізмы, якія выкарыстоўваюцца пры вытворчасці камышыту – уцяпляльных матаў з трыснягу, які прашываецца дротам. Працуе ў цэху 7 чалавек. Але гэта нямала для Занарачы і суседняй вёскі Дружная, дзе жывуць перасяленцы з Чарнобыля. Тут таксама ведаюць праблему з працаўладкаваннем.

Гаворыць дырэктар "ЭкаДома" Юрый Супруновіч.

– Тэхналогія вытворчасці такога роду ўцяпляльніка з трыснягу – камышыт слова крыху недакладнае і існуе ў савецкай спецыяльнай літаратуры з 50–х гадоў – вядомая даўно. А сёння актыўна выкарыстоўваецца ў Германіі і Польшчы. У Беларусі на гэты танны будаўнічы матэрыял папросту не звярталі належнай увагі. У ваколіцах Занарачы і на Лепельшчыне, дзе наша арганізацыя будуе таксама, як будавала і ў Дружнай, экалагічныя дамы для перасяленцаў, яго дастаткова.

Вядома, перад урачыстым пускам цэх ужо працаваў. І першы трыснёг для запуску і адладкі абсталявання прывезлі з Польшчы – запакаваны ў поліэтылен, як сапраўды каштоўны будматэрыял. Значныя ж запасы трыснягу для вытворчасці назапасілі на Лепельшчыне і паблізу на Нарачы сезонныя рабочыя ўзімку. Толькі зімой па трывалым лёдзе магчымая прамысловая нарыхтоўка трыснягу.



Танная, але у той самы час каштоўная сыравіна – трысцё – нарэшце знайшла ў Беларусі сабе прымяненне. Для вытворчасці ўцяпляльных пліт шмат не трэба – памяшканне, нарыхтаваная загадзя сыравіна і не вельмі складаны станок ды некалькі спецыяльных прылад. Працуюць на станку па вытворчасці ўцяпляльніка жыхары з Занарачы і Дружнай. Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

У адкрыцці цэха прынялі ўдзел не толькі беларусы, якія тут будуць працаваць, і прадстаўнікі "ЭкаДома", які месціцца ў Мінску, але і дзесяткі гасцей з Германіі. У асноўным гэта людзі, якія ахвяравалі свае грошы ў гэты праект. Прысутнічаў ініцыятар гэтага праекта старшыня нямецкай арганізацыі "Дамы замест Чарнобыля" пан Дзітрых фон Бодэльшвінг, аташэ па пытаннях эканомікі пасольства ФРГ у Беларусі пан Фауст, начальнік упраўлення Дэпартамента па гуманітарнай дзейнасці Мікалай Алісіевіч, намеснік старшыні Мядзельскага райвыканкома Генадзь Крыштафовіч.

Гаворыць Мікалай Алісіевіч:

– У Беларусі больш за 500 арганізацый, якія займаюцца гуманітарнай дзейнасцю. Аднак арганізацый, якія б займаліся доўгатэрміновымі праграмамі, не так шмат. "ЭкаДом" – адна з гэтых нешматлікіх арганізацый.

У другой палове 90–х на ўзгорку ў ваколіцах Занарачы сталі будавацца першыя дамы перасяленцаў, якія сёння сталі звацца вёскай Дружная, хаця афіцыйнага статусу гэта назва не мае – вельмі шмат Дружных у Беларусі. Тым не менш, тут сапраўды жывуць дружна. Многія землякі і прыехалі з адной мясцовасці. З самага пачатку праект Дружнай, які выходзіў з "ЭкаДома" – гэта быў праект будаўніцтва экалагічнага жылля рукамі перасяленцаў. Выкарыстоўвалі розныя матэрыялы – шчэпкі, трыснёг. Урэшце "ЭкаДом" і партнёры з Германіі наладжваюць выпуск трыснеговага ўцяпляльніка, які будуць скарыстоўваць не толькі ў далейшых уласных праектах, у тым ліку і на Лепельшчыне, дзе цяпер узводзіцца дзесятак дамоў, але і для таго, каб пашырыць гэты недарагі (у тры разы таннейшы за цэглу) і экалагічны матэрыял увогуле па Беларусі. Па словах дырэктара "ЭкаДома" Юрыя Супруновіча, яны будуць гатовыя прадаваць уцяпляльнік і староннім арганізацыям або прыватным асобам, якія будуюцца.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**



## Трыснёг

**Трыснёг (Phragmites), род травяністых раслін сямейства злакаў. Вядомыя пяць відаў, распаўсюджаныя ў Азіі, Афрыцы, Паўночнай Амерыцы. У Беларусі паўсюдна расце трыснёг звычайны, або паўднёвы. Расце па берагах вадаёмаў, на ўскраінах балотаў, забалочаных лугах, у кустарніках і ў лясах. Утварае зараснікі, асабліва на паплавах, у нізінах і ў дэльтах рэкаў. Цвіце ў ліпені – жніўні. Маладыя расліны – добры корм для жывёлы, зараснікі – схованка для многіх каляводных жывёлін і месца гнездавання вадаплаўных птушак. Трыснёг здольны паглынаць і перапрацоўваць забруджвальнікі, якія паступаюць са сцёкамі, змяншае колькасць змытых у вадаёмы мінеральных угнаенняў (скарыстоўвае іх для эфектыўнага нарошчвання ўласнай масы). Багатыя крухмалам карнявішчы (50% крухмалу, 5% бялку, 32% клятчаткі) часам спажываюцца ў ежу. Сырымі або адваранымі ядуць маладыя парасткі. Часам парасткі ўжываюць як замяняльнік кавы і робяць з іх муку, аднак яна шкодная з–за вялікага ўтрымання клятчаткі. Парасткі выкарыстоўваюць таксама пры вытворчасці паперы, пляценні кошыкаў, цыновак. Выкарыстоўваюцца таксама на сілас.**

**Шматгадовая расліна з прамастойным пустым сцяблом вышынёй да 5 метраў. Лісце пачарговае, шыроколінейнае, цвёрдае. Суквецце – густая мяцёлка даўжыней да 50 см, буравата–фіялетавая, часамі жоўтая, каласкі 3–7–кветачныя. Плод – зярнятка.**

# Пяць мэтаў нарачанскага праекта

**По словах ініцыятара праекта пана Дзітрыха фон Бодэльшвінга, рэалізацыя праекта ставіла перад сабой пяць канкрэтных мэтаў.**

**Першая мэта.** Даць магчымасць немцам удзельнічаць у вырашэнні праблем, з якімі сутыкнулася Беларусь пасля Чарнобыля. Тут можна назваць ужо пастаўленыя і ўключаныя ў агульную сістэму энергазабеспячэння ветракі ля Дружнай.

**Другая.** Эканомія. Ветракі – знак эканомнай здабычы энергіі, пліты з уцяпляльніка – вытворчасці недарагіх будматэрыялаў.

**Трэцяя.** Экалогія і бяспека.

**Чацвертая.** Працаўладкаванне. 7 чалавек знайшлі сабе працу ў цэху.

**Пятая.** Дружба.



Ініцыятар праекта Дзітрых фон Бодэльшвінг. Фота Аляксандра Манцэвіча.



На адкрыццё цэха ў Занарачы дзесяткі немцаў прыехалі з Дружнай, дзе спыніліся, на раварах.

Дарэчы, мы звярнуліся да дырэктара "ЭкаДома" Юрыя Супруновіча, каб раскрыць сакрэт заробкаў работнікаў цэха. Сёння ён складае прыкладна каля 220 тысяч рублёў. Неблагі па мерках Мядзельшчыны.

— Заўсёды ў пытаннях аплаты працы мы раімся і з мясцовым калгасам, – гаворыць Юрый Супруновіч, – аналізуем заробкі ўвогуле ў мясцовасці, дзе працуем. Каб яны стасаваліся з агульнай сітуацыяй. І каб людзі атрымлівалі належнае за іх працу.

У цэху працуе брыгада, на чале якой таксама перасяленка Таццяна Вышыванюк. Людзі тут з Занарачы і Дружнай: гэта Уладзімір Пашкевіч, Вячаслаў Ляшкевіч, Эдуард Грэсь, Віктар Прылуцкі, Сяргей Ляшкевіч і Андрэй Гаварушка.



Гэты трыснёг, стаўшы уцяпляльнікам, не згніе на беразе Нарачы.

# Малады пасёлак Чысць

**МАЛАДЗЕЧНА. Нягледзячы на тое, што беларуская нацыя паступова вымірае, ёсць у рэгіёне месцы, дзе нараджальнасць перавышае смяротнасць.**

Да іх ліку адносіцца і Чысць. Летась тут нараджальнасць перавысіла смяротнасць у 1,5 раза, а тры гады назад гэтыя паказчык увогуле быў роўны 2,5.

Чысць - пасёлак маладзёжны. Жыве тут шмат маладых сем'яў. Многія прыехалі сюды з розных куткоў Беларусі, з забруджаных Чарнобылем земляў, а некаторыя - нават з-за мяжы.

Адныя калісьці прыехалі сюды з-за магчымасці хутка пабудаваць сабе жыллё, іншыя – з-за магчымасці знайсці работу.

Сёння ў пасёлку жыве больш за 5 тысяч чалавек. Сярэдні ўзрост жыхароў знаходзіцца паміж 35 і 37 гадамі. Амаль у кожнай сям'і ёсць дзеці. Чысцінцаў да 16 гадоў больш чым 1,5 тысячы.

Ці ёсць чым заняцца чысцінскай моладзі? Хутка пачнуцца канікулы, школьнікам не трэба будзе рыхтавацца да ўрокаў, а вольнага часу будзе вельмі шмат.

І калі больш сталая моладзь, дарослыя могуць самі арганізаваць свой адпачынак, то маладзейшыя могуць выбіраць з таго, што прапануюць дарослыя. А прапановы існуюць наступныя.


Павел Ульчыц і Віталь Іваро ўскі з Чысці любяць праводзіць свой час за камп'ютэрнымі гульнямі. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Дом культуры

Як правіла, у большасці населеных пунктаў усе культурныя масавыя мерапрыемствы праходзяць у мясцовым Доме культуры (ДК). Чысцінскі ДК - гэта галаўны боль усіх, хто жыве ў пасёлку. Аварыйны стан ДК не дазваляе збірацца тут моладзі. Раней нават дыскатэкі праводзіліся толькі ў школе. Некалькі гадоў таму да ДК дабудавалі танцпляцоўку. Але ж вядома, што яна адчыняецца толькі летам. А што рабіць, калі лета выдасца дажджлівае?

Паколькі пытанне на аднаўленне ДК так і не пасунулася з месца за гэтыя гады, то надзеі на яго рэканструкцыю ці будаўніцтва новага ДК ужо няма. Хаця мінулай восенню для правядзення дыскатэк пад дахам аддзел культуры ўзяў у арэнду памяшканне ў мясцовым магазіне «Світанак». Калі ўлічыць, што дыскатэкі праводзяцца ў школе, то пытанне, як заняць аматараў танцаў, часткова вырашана.

## Музычная школа

Тут дзеці могуць навучыцца іграць на 10 музычных інструментах. Пры школе ёсць малодшы і старэйшы калектывы хораў, 2 вакальныя групы, арганізаваныя ансамблі: народных інструментаў, струнна-смычковых інструментаў «Чысцінскія дударочкі», а таксама ансамбль народнай музыкі «Сакавінка».

З-за таго, што ДК зачынены, канцэрты ў Чысці праводзяцца толькі ў зале музычнай школы. Раз у месяц тут адбываюцца канцэрты Белдзяржфілармоніі з удзелам прафесійных музыкантаў, вакалістаў і спевакоў з абласных філармоній. На базе Чысцінскай школы штогод праводзіцца абласны фестываль «Гучаць цымбалы на зямлі Купалы». Дырэктар музычнай школы **Валерый Сальнік** гаворыць, што галоўнае (акрамя таго, што ў школе вучаць дзяцей музыцы, выхоўваюць іх гарманічна развітымі і вучаць любіць сваю краіну) — гэта тое, што дзеці проста занятыя. А гэта вельмі важна.

## Школа

У Чысцінскай СШ 8 клубаў: «У свеце чароўных гукаў і танцавальнага мастацтва», «Умелыя рукі», «Спадчына», «Тэатральнае мастацтва», «Пазнай сябе», «Экалогія», «Эрудыт» і выяўленчая студыя. Кожны з іх уключае ў сябе ад аднаго да некалькі гурткоў.

Для таго, каб зацікавіць школьнікаў у летні час, у перыяд канікулаў пры школе будзе працаваць аздараўленча-выхаваўчы лагер на 300 вучняў. Школьнікаў размяркуюць па наступных атрадах: атрад па збору лекавых траў, па добраўпарадкаванні тэрыторый, па рамонту школьнай мэблі, у паляводчую брыгаду.

## Іншае

**Камп'ютэрны клуб.** У снежні 2001 года ў пасёлку з'явіўся камп'ютэрны клуб – не ў кожнага падлетка дома ёсць камп'ютэр. Самаму малодшаму наведвальніку клуба - 5 гадоў. У асноўным, гэта школьнікі, але прыходзяць сюды раз-пораз і дарослыя, каб зазірнуць ў Інтэрнет ці надрукаваць штонебудзь.

**Спарткомплекс.** У спарткомплексе ёсць 20 спартыўных секцый для юнакоў і дзяўчат.

**Раённы Дом творчасці.** На базе Чысцінскай СШ працуе Маладзечанскі раённы Дом творчасці. Пры ім таксама ёсць гурток прыкладнога мастацтва, гурток па вырабе мяккіх цацак, танцавальны. Унутрышкольныя выстаўкі з творамі вучняў — таксама справа раённага Дома творчасці.

**Бібліятэка.** Тут запісаныя каля 1300 чалавек. Сюды звяртаюцца каля 900 школьнікаў за кнігамі ці часопісамі. Але не думаю, што летам каму-небудзь са школьнікаў вельмі хочацца чытаць.

**Людміла ПЯТРОВІЧ.**


Чысцінскі Дом культуры даўно закрыты на рамонт. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.


Чысцінцы Саша Сцяпанаў, Грыша Кірыенка і Руслан Якімовіч у свой вольны час прыйшлі на баскетбольную пляцоўку. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Сцеражыся злодзея-меламана!

**У першым квартале гэтага года Чысць можна было часта сустрэць у крымінальных зводках з-за вялікай колькасці ў гэтым пасёлку крадзяжоў з аўтамабіляў. Усяго са студзеня па сакавік уладальнікі аўтатранспарту пазбавіліся 8 аўтамагнітол. Узбуджана 6 крымінальных спраў.**

Як паведаміў начальнік Чысцінскага аддзялення міліцыі **Міхаіл Барэйка**, у асноўным крадзяжы з машын здзейсненыя ў дварах шматкватэрных дамоў, але таксама былі 2 выпадкі знікнення аўтамагнітол з аўтамабіляў, якія знаходзіліся ў гаражах, і 1 выпадак крадзяжу, калі аўтамабіль стаяў у двары прыватнага дома.

Міхаіл Барэйка дае наступную параду чытачам-аўтамабілістам: калі вы вымушаныя пакідаць машыну на вуліцы, то лепш абсталяваць яе сігналізацыяй. Калі ўсё ж такі вы сталі ахвярай злачынцаў, то як мага раней звяртайцеся ў міліцыю, бо пасля несвоечасовага звароту да праваахоўных органаў раскрыццё злачынства становіцца амаль што немагчымым. Начальнік Чысцінскага аддзялення міліцыі просіць і сведкаў здарэння не быць абыякавымі.

Ён жа выказаў думку аб тым, што, магчыма, хутка патрэбна будзе ўзнімаць пытанне аб будаўніцтве ў Чысці платнай аўтастаянкі, бо колькасць гаражоў тут невялікая, а насельніцтва больш за 5 тысяч. Магчыма, з будаўніцтвам аўтастаянкі была б вырашана праблема аховы транспарту для многіх жыхароў пасёлка.

Увогуле Чысцінскім аддзяленнем міліцыі раскрыты 41% усіх злачынстваў, здзейсненых у першым квартале гэтага года. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года колькасць злачынстваў узрасла на 10 выпадкаў.

Што тычыцца красавіка, то з 8 зарэгістраваных злачынстваў 5 ужо раскрытыя. Як і раней – гэта крадзяжы. Многія з іх здзейснены непаўналетнімі, найчасцей з сем'яў, дзе бацькі з'яўляюцца аматарамі гарэлкі. Напрыклад, 4 красавіка 14- і 17-гадовымі хлопцамі ў Раёўцы была ўкрадзена акумулятарная батарэя. Як потым высветлілася, прадаць крадзенае яны хацелі для таго, каб купіць хлеба. Калі супрацоўнікі міліцыі наведалі дом аднаго з хлопцаў, бацькі іх былі п'янымі.

Адзін з фактараў, які ўплывае на рост крадзяжоў у пасёлку, — продаж самагону. У падпольных пунктах продажу ў абмен на крадзеныя рэчы можна атрымаць паўлітра. Метавіта тут і збываецца шмат крадзенага. Сёлета супрацоўнікі міліцыі выявілі 30 чалавек, якія займаліся вытворчасцю і продажам самагону. Усе яны былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

**Людміла ПЯТРОВІЧ.**

# Горад у зялёным інтэр'еры

**Наколькі ведаю, у Маладзечне не было спецыяльнай праграмы азелянення горада. Тое, што рабілася ў гэтым напрамку, дыктавалася самім жыццём, і атрымалася зусім нядрэнна.**

У першыя пасляваенныя гады ў горадзе былі дзве зялёныя зоны. Першая з іх – запушчаны з польскіх часоў стары парк з высахшым цэментаваным басейнам у Гелянове, які па прычыне аддаленасці ад цэнтра не быў месцам масавага адпачынку. Але два разы ў год і ён напаўняўся людскім шматгалоссем: 19 мая, калі ўся піянерыя горада збіралася сюды пад вечар на свой урачысты вялікі касцёр, і восенню, калі побач на пуставаўшай прасторы ад былога аблвыканкома (цяпер – інтэрнат палітэхнікума) да ТЭЦ і хлебазавода ў спецыяльна пабудаваных для гэтага часовых павільёнах ладзілася абласная выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі. Тады ў парку разгортваўся цэлы палатачны гарадок, дзе кожны райспажыўсаюз запрашаў наведвальнікаў выстаўкі ў свае буфеты, чайныя і закусачныя і дэманстраваў сваю гасціннасць і культуру абслугоўвання.



Маладзечанцы Юлі Паплёўцы, якая летась вярнулася дадому пасля вучобы ў ЗША, вельмі не хапала нашай зеляніны.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Чынуначны парк

Затое заўсёды быў перапоўнены людам чыгуначны парк – цяперашні сквер па вуліцы Прытыцкага. Насупраць яго быў стары гарадскі рынак, справа і злева абрамлялі знесены нядаўна будынак ашчаднага банка і разбураны на пачатку 50-х гадоў барачнага тыпу кінатэатр "Партызан" і стары каталіцкі касцёл. У 1952 годзе "замкнуў" парк новы кінатэатр "Радзіма". Тры разы на тыдзень з вясны да позняй восені на танцпляцоўцы ў парку арганізоўваліся танцы пад духавы аркестр, на якіх моладзь кружылася ў вальсах "У гарадскім садзе іграе духавы аркестр" і "Дунайскія хвалі", танчыла старыя танга, на выкананні якіх у наш час падоўжыў сваё даўгалецце на эстрадзе І.Кабзон; факстрот пра адважных франтавых шафёраў, што ліха абміналі міны, і ... бальныя(!) "Па дэ грас" і "Па дэ іспань". Падзеяй усяго горада было святкаванне дня чыгуначнікаў напачатку жніўня. Яно пачыналася ўрачыстым паседжаннем і канцэртам ў парку і завяршалася масавым гуляннем назаўтра на Віліі, для чаго раніцай на Залессе адпраўляўся спецыяльны бясплатны цягнік.

Разам з тым невялікага па памерах чыгуначнага парку ўсё больш не хапала для растучага горада.

## Парк Перамогі

**Пры будаўніцтве пуцепровада ў пачатку 70-х гадоў быў страчаны вельмі ўтульны скверык з прыгожымі кветнікамі каля былога пераезду на рагу вуліц Прывакзальнай і былой Савецкай.**

У 1950 ці 51-м годзе камусьці з начальнікаў абласнога на той час цэнтра прыйшла ў галаву добрая ідэя новым паркавым масівам звязаць у адзінае цэлае горад з асабняком на гары Гелянова. У пасадцы дрэў удзельнічалі ўсе калектывы горада. З боку вуліцы Жданава (цяпер Машэрава) была ўзведзена арка галоўнага ўваходу з жалезнымі варотамі, за імі пасярод вялікай круглай клумбы быў пастаўлены зусім непатрэбны для такога месца помнік У.І.Леніну (перанесены потым да СШ №9). Там-сям сярод дрэў былі пастаўлены традыцыйныя для садова-паркавай архітэктуры сталінскага часу гіпсавыя скульптуры тыпу дзяўчыны з вяслом. Пастамент аднаго з такіх "шэдэўраў" застаўся і сёння сіратліва стаіць злева ад цэнтральнага ўваходу.

У сярэдзіне 50-х новы парк дасягнуў запланаванага выгляду: былі пастаўлены першыя атракцыёны – дзіцячыя каруселі і арэлі для дарослых у правым куце парку, там жа непадалёку – павільён-закусачная. Адкрываў сезон летні тэатр, які дэманстраваў у цёмны час кінафільмы. Зразумела, была пабудавана і прасторная круглая танцавальная пляцоўка, але некалькі гадоў яна не здольная была канкураваць з танцпляцоўкай у чыгуначным парку. Моладзь прыходзіла па вечарах, стаяла ў роздуме каля агароджы новай пляцоўкі і ў рэшце рэшт ішла на больш звычныя танцы да кінатэатра "Радзіма".



7 мая. У Маладзечанскім парку Перамогі ідзе работа па яго добраўпарадкаванні.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Танцпляцоўка

Пытанне было знята тым, што танцпляцоўку ў чыгуначным парку спілавалі на дровы, а на яе месцы паставілі магазін "Кветкі" (там зараз узведзены новы касцёл). А напачатку 70-х гадоў гарадскія ўлады замахнуліся нават на будаўніцтва ў парку першай у рэспубліцы крытай танцпляцоўкі, каб жаданне моладзі патанцаваць не залежала ад капрызаў надвор'я. З шэфскай дапамогай будтрэста, завода металаканструкцый і мэблевай фабрыкі смелая задума была паспяхова рэалізаваная. Прыгадваецца ў сувязі з гэтым адна забаўная гісторыя, расказаная першым сакратаром гаркома КПБ у той час К.І.Туровічам. Будаўніцтва танцпляцоўкі з гонарам паказвалі аднаму далёкаму ад клопатаў аб танцах моладзі абласному начальніку. Высокага госця з Мінска здзівіў не сам факт будаўніцтва такога аб'екта, а тое, як хлопцы і дзяўчаты будуць залазіць на яе: плоскі круглы дах пляцоўкі ён прыняў за самую "патэльню", на якой моладзь будзе танцаваць. Шкада толькі, што лёс гэтай танцпляцоўкі крута падкасіла мода на дыскатэкі. Моладзь чамусьці за лепшае палічыла дрыгацца пад музыку ў цьмяных цесных памяшканнях, чым дэманстраваць на віду ў людзей сваё няўменне прыгожа танцаваць. Між тым гэты пакінуты "касмадром", які, дарэчы, стаіць на цеплатрасе, можна было б вярнуць да жыцця, калі дабудаваць са шкла і бетону сцэны. Магло б атрымацца зусім не лішняе для горада арыгінальнае памяшканне для круглагадовага дансінгу, правядзення выставак і іншых культурных мерапрыемстваў.

**Тры разы на тыдзень з вясны да позняй восені на танцпляцоўцы перад кінатэатрам «Радзіма» арганізоўваліся танцы пад духавы аркестр, на якіх моладзь кружылася ў вальсах «У гарадскім садзе іграе духавы аркестр» і «Дунайскія хвалі», танчыла старыя танга, факстрот пра адважных франтавых шафёраў, што ліха абміналі міны, і ... бальныя «Па дэ грас» і «Па дэ іспань».**

Пракладзеная пасля смерці ў 1953 годзе Ф.Р.Маркава ліпавая алея на вуліцы яго імя падказала гарадскім архітэктарам ідэю завяршыць новы зялёны ансамбль скверам за Домам культуры будаўнікоў. Пасля перапахавання там у брацкую магілу астанкаў савецкіх воінаў, загінуўшых пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 года, і ўзвядзення абеліска гэты сквер з пачатку 60-х гадоў стаў рытуальным месцам для ўскладання вянкоў у дні Перамогі і вызвалення горада, а таксама кветак маладымі ў свой шчаслівы шлюбны дзень.

## Тапаліны пух

А вось наступнаму праекту не было наканавана здзейсніцца. Старажылы памятаюць вялікую безгаспадарную лагчыну паміж вуліцамі Савецкай (Вялікі Гасцінец), Рэвалюцыйнай (Прытыцкага), К.Маркса (Бухаўшчына) і насыпам аб'язной чыгуначнай веткі, дзе цяпер месціцца гарадская бібліятэка. Праз яе ў сухое надвор'е і зімой нацянькі хадзілі ад кінатэатра "Радзіма" ў Зялёны гарадок і Гелянова. Па дне лагчыны цякла бурлівая вясной і восенню рачулка, і ў кагосьці з гарадскіх начальнікаў з'явілася задумка перакрыць яе плацінай пад жалезным чыгуначным мастом і зрабіць штучнае возера. Сам бачыў, як пачалі нават заліваць бетонам нейкі фундамент, быццам для вышкі для скачкоў у ваду. Але нешта па невядомай прычыне перайначылася, і ў лагчыну пад насмешкі гараджан паўтыкалі цярэбленыя тапалёвыя сукі. Але час паказаў, што кпілі дарэмна: не паспелі заўважыць, як з былых калкоў ўзняліся ўвысь магутныя таполі, пух якіх летам, быццам снегам, пакрываў навакольле. Частка дрэў у 70-я гады была спілавана пры будаўніцтве гасцініцы, а астатнія выкарчаваны пад пляцоўку новага Палаца культуры.

**Будаўніцтва танцпляцоўкі ў парку Перамогі з гонарам паказвалі аднаму далёкаму ад клопатаў аб танцах моладзі абласному начальніку. Госця з Мінска здзівіў не сам факт будаўніцтва такога аб'екта, а тое, як хлопцы і дзяўчаты будуць залазіць на яе: плоскі круглы дах пляцоўкі ён прыняў за самую «патэльню», на якой моладзь будзе танцаваць. Шкада толькі, што лёс гэтай танцпляцоўкі крута падкасіла мода на дыскатэкі.**

## Засталіся без вады

Такім чынам, маладзечанцам не пашанцавала з адпачынкам каля вады ў цэнтры горада ў першы раз. У другі раз – у сярэдзіне 60-х гадоў, калі меліяратары ператварылі ў канаву Ушу. Між тым гэта была рыбная, даволі шырокая і каварная сваімі нечакана вельмі глыбокімі месцамі на заваротах рака, з-за чаго штолета забірала жыццё не аднаго самаўпэўненага плыўца. Самымі людными месцамі купання і адпачынку былі пляж справа ад чыгуначнага маста, дзе моладдзю быў пасаджаны камсамольскі парк, а таксама злева ад маста, дзе пасярод ракі быў астравок. Страту гэтых масавых месцаў летняга адпачынку не змагла кампенсаваць выкапаная злева ад шашы на Вілейку невялікая брудная купальня.

Пры будаўніцтве пуцепровада ў пачатку 70-х гадоў быў страчаны вельмі ўтульны скверык з прыгожымі кветнікамі каля былога пераезду на рагу вуліц Прывакзальнай і былой Савецкай.

## Суботнікі

Але агульны баланс зялёных насаджэнняў у горадзе не зменшыўся. Хутчэй наадварот. Быў добраўпарадкаваны зялёны куток каля завода "Спадарожнік", дзе пад новы год ставілася самая лепшая па святочнай ілюмінацыі ёлка, што было зусім нядзіўным для прадпрыемства з такімі інтэлектуальнымі і фінансавымі магчымасцямі. У пачатку 80-х стварацца новая зялёная зона ад вуліцы Міру да завода "Электрамодуль", люднасць якой там прыдаў рэчавы рынак.

Масавыя пасадкі дрэў, як правіла, праводзіліся вясной у час былых ленінскіх суботнікаў, калі лічба ад колькасці новых насаджэнняў была адным з важнейшых паказчыкаў эфектыўнасці гэтых камуністычных мерапрыемстваў. Сёння не так ужо і важна, як яны абстаўляліся, важна, што дабаўлялі ў зялёны інтэр'ер горада.

Вядомая мудрая прытча сцвярджае, што кожны мужчына можа быць упэўнены ў недарэмна пройдзеным жыцці, калі забяспечыў сваю сям'ю жыллём, выхаваў сына і пасадзіў дрэва. Маючы першае і другое, не таю задавальнення бачыць ужо вялікім не адно пасаджанае ў свой час мною ў горадзе дрэва.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## ВІНШАВАНКІ

**Міхаіла Іванавіча Асаевіча** з Маладзечна з 70-годдзем!
Паважаны **Міхаіл Іванавіч**! Віншуем Вас з юбілеем, зычым яшчэ доўгіх год бадзёрасці і творчага пошуку. Удалых кадраў!
*Калектыў "Рэгіянальнай газеты".*

Віншуем з залатым вяселлем **Уладзіміра Аляксандравіча і Яўгенію Георгіеўну Барташаў** з в. Забрззэе. Жадаем шчасця, здароўя, даўгалецця. *Дзеці, унукі.*

Дарагую і любімую **Рымшу Веранічку** віншуем з 18-годдзем. Здароўя, любая, і няхай здзейсняцца ўсе твае мары. *Родныя.*

Віншую **Рышкевіч Таццяну** з днём нараджэння. Жадаю здароўя, шчасця, удачы, кахання, грошай. *Ульчыц Ірына.*

З днём нараджэння **Зайкавіч Раісу Васільеўну**! Здароўя, шчасця, дабрабыту. *Калектыў д/с №5 г. Вілейкі.*

З днём нараджэння **Комар Ірыну Антонаўну**! Здароўя, шчасця! *Калектыў д/с. №5 г. Вілейкі.*

З днём нараджэння **Азончыка Віталія Аляксандравіча** з Вілейкі. Жадаем здароўя, кахання, удачы! *Твае родныя.*

Віншуем з 30-годдзем **Сачыўку Уладзіміра Францавіча** з Асташкава! Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту. *Сям'я Пастэрнак.*

З днём нараджэння **Клімовіч Святлану** з г. Вілейка. Жадаем здароўя, удачы. *Твае родныя.*

Віншуем з 18-годдзем **Клімовіч Юлію** з г. Вілейка. Жадаем здароўя, кахання. *Тата, мама, сёстры.*

Віншуем **Путырскага Сяргея** з 16- годдзем! Жадаем шчасця, моцнага здароўя, даўгалецця, удачы, добрых сяброў. *Родныя.*

Віншуем з 16-годдзем любімага сыночка **Путырскага Сяргея**. Жадаем здароўя, шчасця, удачы, поспехаў у вучобе. *Родныя.*

Віншуем з днём нараджэння **Карповіч Наташу**. Здароўя, кахання, шчасця, ласкавых усмешак, поспехаў у вучобе. *Ніна, Галіна.*

Віншуем з днём нараджэння **Карповіч Галіну Юзэфаўну**. Жадаем шчасця, моцнага здароўя, святочнага настрою, удачы. *Цалую, Ніна.*

Віншуем з днём нараджэння **Галіну Гатоўку**. Желаю быть самой весёлой и самой счастливой, хорошей и нежной и самой красивой. *Эдуард.*



## ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з жанчынай 38-48 год для стварэння сям'і. Пра сябе: 48 год, 182 см, сярэдняга складу, брунет. Маладзечна-6, ВМ 0649086.

Пазнаёмлюся з жанчынай для стварэння сям'і, пажадана без дзяцей. Жыву ў пасёлку Мінскай вобласці. 220079, Мінск-79, а/с 183.

Пазнаёмлюся для сяброўства з прыемным мужчынам. Пра сябе: 50/162. Маладзечна-6, п/п МС 0776863.

Свабодны, усім забяспечаны мужчына без шкодных звычак запрашае забяспечаную жанчыну без дзяцей жыць у Мінску. 222340, Валожын, пошта, а/с 1.

Мужчына 35/70/170 пазнаёміцца з жанчынай 25-30 год для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п МС 0658381.

**Купон 21** Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

■ ПАДПІСКА-2003

# Падпішыся на «РГ»!

**Пачалася падпіска на «РГ» на трэці квартал і другое паўгоддзе.**

Цяпер вы маеце магчымасць зрабіць гэта так:

падпісацца ў любым **паштовым аддзяленні;**

падпісацца ў **рэдакцыі** (Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а)

падпісацца **дома**, запрасіўшы да сябе паштальёна (паслуга бясплатная) - тэлефануйце ў гарадское аддзяленне сувязі, якое вас абслугоўвае:

**Маладзечна:**
1-е - тэл. 7-02-64 (вул. Замкавая, 18);
3-е - тэл. 7-17-20 (вул. Вакзальная, 1);
4-е - тэл. 5-26-81 (Вялікі Гасцінец, 56);
6-е - тэл. 7-02-44 (вул. Прытыцкага, 18);
7-е - тэл. 5-45-13 (вул. Ф. Скарыны, 21).
Тэлефон для даведак 7-05-73 (аддзел падпіскі).

**Вілейка:**
1-е - тэл. 5-80-39 (вул. Талстога, 55);
2-е - тэл. 3-31-39 (вул. Даравольскага,2);
4-е - тэл. 5-55-39 (вул. 17 Верасня, 30).
Тэлефон для даведак 5-64-68 (аддзел падпіскі).

«Рэгіянальная газета» заўсёды стараецца быць у віры падзей, даваць карысную і цікавую інфармацыю на любую тэматыку. Калі вы яшчэ не падпісаліся на газету, якую трымаеце ў руках, зрабіце гэта. Будзьце ў нашай кампаніі!

**Рэдакцыя «РГ».**




**«Рэгіянальная газета» – незалежны погляд на жыццё рэгіёну, матэрыялы па эканоміцы, культуры, гісторыі, тэматычныя старонкі, конкурсы з прызамі, укладка з праграмай, карысная рэклама і аб'явы.**

**Індывідуальная падпіска:** індэкс 63212, кошт на месяц **2000** руб.
**Ведамасная падпіска:** індэкс 63369, кошт на месяц **5941** руб.

## Кінатэатр «Радзіма»



**23-25 мая. "Цісні на газ"**, Данія, крымінальная камедыя, акрамя асоб да 16 гадоў, – у 17.00 і 21.00.

**"Таксі-3"**, Францыя – у 19.00. 24 і 25 мая – у 15.00 і 19.00.

**26 мая – 1 чэрвеня. "Каханне злое"**, ЗША, рамантычная камедыя – у 17.00.

**"Ідэнтыфікацыя Борна"**, ЗША, трылер, акрамя асоб да 16 гадоў, — у 19.00 і 21.00.

(Кожную сераду ільготныя білеты на сеанс у 17.00).

**Для дзяцей**

**24 і 25 мая. "Прыгоды жучкоў"**, ЗША, поўнаметражны мультфільм – у 13.00.

Відэадыскатэка для моладзі — у пятніцу і суботу ў 22.00. Працуе бар.

Камп'ютэрныя гульні (прыстаўка "Соні"). Штодзённа, акрамя панядзелка, з 10.00 да 22.00.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГАДОЎ ТАМУ

## Бібліятэка ў Радашкавічах

г. Радашковичы Вилен. г. Вилейк. пав. У нас некаторые «прагрэсіўные» людзи ўсё збираюцца адкрыць гарадзкую библиотэку, с каторай бы выдавали книжки рускіе, польскіе и др. за невялікую плату ўсім. Книжки будуць и для интэлигенцыи, и для простаго чалавека. — Трэба, каб гарадзкая Дума падала прашэньне губэрнатару аб библиотэцы. Горад Радашковичы мае 4 тыс. жыцелёў и гарадзкое вучылішчэ, ды кругом шмат вёсак и народу, — будзе каму чытаць. — Беда тольки, што нашы прагрэсіўные людзи трохи спяць и трохи баяцца нима ведама чаго.

**Вецер.**

**Першая Беларуская Газэта з Рысунками «Наша Нива». №11 ад 22 мая 1908 г.**

■ ПАДПІСКА-2003

## Зайдзіце на пошту

Працягваецца прыём падпіскі на газеты і часопісы РБ і выданні СНД на II паўгоддзе 2003 года. Не забудзьцеся аформіць падпіску. Вас чакае аддзел падпіскі па адрасе: Маладзечна, вул. Прытыцкага, 18. Тэл. для даведак 7-05-73.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ІМЯНІНЫ

**23 мая**
**Праваслаўныя**: Таісіі, Анісіма, Купрыяна, Сімона.
**Каталіцкія**: Міхала, Яна.
**24 мая**
**Праваслаўныя**: Іосіфа, Кірылы, Мяфодзія, Макея, Нікадзіма, Сафрона.
**Каталіцкія**: Зузанны.
**25 мая**
**Праваслаўныя**: Германа, Дзяніса.
**Каталіцкія**: Рыгора, Урбана.
**26 мая**
**Праваслаўныя**: Глікерыі, Ірыны, Георгія, Макара, Яфіма.
**Каталіцкія**: Паўліны, Філіпа.
**27 мая**
**Праваслаўныя**: Лявона, Максіма, Мікіты, Нікіфара, Сідара.
**Каталіцкія**: Магдалены, Аўгусціна, Юльяна, Яна.
**28 мая**
**Праваслаўныя**: Пахома.
**Каталіцкія**: Аўгусціна, Вільгельма, Яраміра.
**29 мая**
**Праваслаўныя**: Музы, Аляксандра, Віта, Георгія, Касьяна, Лаўрына, Мадэста, Фёдара, Яфрэма.
**Каталіцкія**: Магдалены, Тэадозіі.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Адшукваецца злачынец



За здзяйсненне цяжкага злачынства Маладзечанскім ГРАУС і Мінскай міжраённай ваеннай пракуратурай адшукваецца **Завадскі Сяргей Аляксандравіч** 1979 года нараджэння, ураджэнец в.Вялікія Кашэўнікі Маладзечанскага раёна.

Апісанне знешнасці: высокага росту (каля 182 см), атлетычнага целаскладу, твар авальны, скура светлая, нос прамы, валасы русыя, кароткія, ёсць лобныя залысіны, вочы шэрыя.

Прыкметы: на правым віску ёсць вертыкальны шрам даўжынёй 7 см, на лбе – гарызантальны шрам даўжынёй 1,5 см, на правым прадплеччы — шрам даўжынёй 10 см, на спіне – шрам даўжынёй 20 см, на правым плячы – татуіроўка ў выглядзе літары "С".

Пры сабе можа мець пашпарт на яго імя серыі МС №0904414, выдадзены 28 снежня 2001 года Маладзечанскім ГРАУС, ці серыі МС №0341587, выдадзены 28 мая 1999 Маладзечанскім ГРАУС.

Калі вам што-небудзь вядома аб месцазнаходжанні Завадскага Сяргея Аляксандравіча, неадкладна звяртайцеся ў дзяжурную часць Маладзечанскага ГРАУС па тэл. 7-16-56, 02, або тэлефануйце ў Мінск па 27-51-37.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

